Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

No 14 28 ліпеня- 3 жніўня 1995 года ЦАНА 500 рублёў

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

## Навіны рэгіёна

### Маскоўскі патрыярх у Дорах

***ВАЛОЖЫН.** Днямі Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Алексій Другі ў рамках свайго візіту на Беларусь наведаў сяло Доры, дзе асвяціў месца будучага храма-помніка Пакрова прасвятой багародзіцы, падобны да таго, у якім падчас апошняй вайны былі спалены зажыва гітлераўцамі 257 мірных жыхароў.*

Наступны шлях кіраўніка Рускай Праваслаўнай царквы ляжаў на Гродзеншчыну.

*Мікола ГАЙДУК.*

### Знайшлі згоду камуністы і бэнэфаўцы. І не толькі яны

***У Маладзечне прайшла сустрэча прадстаўнікоў тых палітычных партый і рухаў, якія актыўна дзейнічаюць у горадзе. Адбылася яна па ініцыятыве БНФ, але ўдзел у ёй прынялі як сябры БЗДГ, ПНЗ, НДПБ, так і БПК (беларускай партыі камуністаў), жаночай партыі «Надзея», прадстаўнікі ветэранскіх арганізацый, ТБМ, а таксама незалежныя дэпутаты Вярхоўнага Савета і гарсавета.***

Галоўнай ідэяй сустрэчы было тое, што Беларусь — наш агульны дом, што нам наканавана жыць побач адзін з другім у гэтым горадзе і ад гэтага нікуды не дзенешся. Таму трэба рэальна прыстасоўвацца да існуючага становішча і пры розных падыходах да розных палітычных праблем (напрыклад, дзяржаўнасць Беларусі, яе нейтралітэт і міжнародныя стасункі, рыначныя адносіны і іншае) не трэба бачыць адзіну ў другім ворага. Існуе шэраг праблем, на вырашэнням якіх можна працаваць супольна.

Удзельнікі сустрэчы знайшлі паразуменне па такіх пытаннях, як неабходнасць прадстаўнічай улады, добрая падрыхтоўка і належнае правядзенне выбараў, грунтоўная падрыхтаванасць кандыдатаў у дэпутаты і даняценне своечасова інфармацыі аб іх да выбаршчыкаў. Пагадзіліся яны і на тым, што прэзідэнцкая «вертыкаль» не ўпісваецца ў сістэму дэмакратычнай дзяржавы, што любы кіраўнік пэўнага рэгіёна павінен выбірацца яго жыхарамі і адказваць перад імі, а не прызначацца «зверху».

Вырашана зрабіць такія сустрэчы рэгулярнымі, пашырыць кола іх удзельнікаў, выйсці на кантакт з гарадскімі ўладамі і праваахоўнымі органамі па пытаннях выбараў, стварыць грамадскую камісію па кантролю за падрыхтоўкай і правядзеннем выбарчай кампаніі. Узначаліць гэту камісію прапанавана дэпутату ВС РБ Віктару Уласенку, беспартыйнаму. Для большай аб'ектыўнасці.

*Валерый МАРКЕЛАЎ.*

### Філіял Акадэміі адкрыецца... у вёсцы

***ВАЛОЖЫН.** Вёска Ракаў, якая размешчана ў 40 кіламетрах ад Мінска, шукала шанц праславіцца гадоў 5 таму. У гэтым населеным пункце Валожыншчыны планавалі пабудаваць парк цудаў, накшталт амерыканскага Дыснэйлэнда. Але, на жаль, не адбылося цудаў з фінансаваннем...*

І вось час нібы захацеў рэабілітавацца. Ракаў зноў склікае гасцей, турыстаў. Некалькі месяцаў таму ў рэспубліцы вядучымі мастакамі краіны заснавана Акадэмія Выяўленчага Мастацтва. Акадэмікамі гэтай установы сталі ўраджэнцы Ракава браты Ф. і В. Янушкевічы. На іх сядзібе, у гэтай маляўнічай, з багатай гісторыяй вёсцы, і плануецца адкрыць філіял Акадэміі.

Зараз тут будуецца музей і выставачныя залы. Неўзабаве наведвальнікі змогуць азнаёміцца з рэдкай калекцыяй керамікі XV—XX стагоддзяў. Сабраны вырабы таленавітых, самабытных майстроў тутэйшых мясцін. Паклапаціўся пра гэта Фелікс Янушкевіч. Наведаўшы філіял Акадэміі, турысты могуць ацаніць творы жывапісу, скульптуры мастакоў Беларусі і замежжа.

*Ірына ПАШКЕВІЧ.*

### Тона ліпеньскага мёду

***СМАРГОНЬ.** Аб тым, якое сёлетняе лета, найлепш за ўсё ведаюць пчаляры: і раёў шмат, і мёду.*

— Быў перыяд,— гаворыць дырэктар міжгаспадарчага пчолааб'яднання М.Раманаў, калі інтэнсіўна развіваліся пчоласем'і, адбывалася раенне.

Пчаляры аб'яднання не ўпусцілі гэты важны момант. Удалося на 75 сем'яў расшырыць пасеку. І цяпер у пяці пчаляроў 350 сем'яў.

Першы ўраджай парадаваў пчаляроў. Сабрана тона высакаякаснага мёду. Хто мае справу з пчоламі, той ведае, які гэта карысны прадукт, асабліва першы ўраджай. А пчолы працягваюць сваю работу. Кантрольныя вуллі паказваюць, што яны інтэнсіўна пячатаюць усё новыя і новыя соты. У жніўні зноў запяюць на пасеках медагонкі.

Пчаляры пільна сочаць за сваімі пасекамі, стараюцца, каб за лета сем'і сталі моцнымі. Сакрэты гэтай справы многім вядомы.

Калі вывезлі вясной на ўзятак 52 сям'і на пасеку «Мілідаўшчына», то цяпер тут 75 сем'яў. Удалося пчаляру Анатолю Шаўлюку расшырыць сваю пасеку. Стараецца і пчаляр пасекі «Панара» Вячаслаў Чайко.

Мёд пчолааб'яднання можна купіць дзешавей, чым на смаргонскім рынку.

*Тэрэза КУМІШЧА.*

### Адным халасцяком менш

***МІНСК.** Адным халасцяком менш стала ў сталіцы. Лідэр Беларускага народнага фронту Зянон Пазняк 23 ліпеня ў магілёўскім касцёле святога Станіслава ўзяў шлюб з Галінай Вашчанкай, дэпутатам Мінскага гарсавета, якая таксама належыць да БНФ.*

Галіна Вашчанка, якая займаецца дабрачыннасцю ў адным з чарнобыльскіх фондаў, перайшла ў каталіцтва. Абрад вянчання гучаў па-беларуску. Да грамадзянскага шлюбу ў ЗАГСе справа пакуль не дайшла.

Пра гэту падзею паведамілі рэспубліканскія сродкі масавай інфармацыі.

### Жывяцца з жывіцы

***ВАЛОЖЫН.** Жывіца (тэрпенцін) — вадкая празрыстая смала, якая выцякае са ствалоў хвойных дрэў. Яна ідзе на выраб шкіпінару і каніфолі, таму жывіцу па праву можна назваць стратэгічнай сыравінай.*

Валожынскі лясгас з нямногіх у рэспубліцы, дзе наладжана нарыхтоўка жывіцы падсечкай. Летась правялі пробныя нарыхтоўкі. Са здабытых 5-ці тон львіная доля прыпала на калектыў Румскага лясніцтва. Сёлета да нарыхтоўкі каштоўнай сыравіны прыступілі Багданаўскае, Вішнеўскае, Румскае, Валожынскае, Пяршайскае і Івянецкае лясніцтвы. Атрымліваць жывіцу можна з красавіка па кастрычнік.

Ужо адпраўлены на Барысаўскі перапрацоўчы завод 2,5 тоны па 400 долараў за кожную. Неўзабаве паступіць туды і чарговая партыя — 3,5 тоны. Да канца сезона плануюць паставіць туды мінімум 30 тон каштоўнай сыравіны.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

# 5 ПРАГРАМ тэлебачання —

3-я старонка

## Крымінал

### Горкі шашлык

***Даволі сумны працяг атрымала рамантычная паездка на бераг возера ля Чарнят для трох мядзельскіх хлопцаў.***

А пачыналася ўсё даволі празаічна. Узялі яны ў знаёмага «Жыгулі» і адправіліся ў недалёкую дарогу. Неўзабаве Купрэвіч, Паршута і Трэнькоў ужо сядзелі на маляўнічым беразе і пад лагодны шэпт ласкавых хваляў адпачывалі. Не абыйшлося, на жаль, і без добрай выпіўкі. Зразумелая справа, назад вярталіся ў прыўзнятым настроі. Не вельмі азмрочыла хлопцаў і невялікая няспраўнасць аўтамабіля. Ухіліўшы яе, азірнуліся навокал і бачаць: непадалёку за плотам пасвяцца авечкі.

— Шашлыкі ходзяць! — усклікнуў хтосьці з іх. — І нікога з вясковцаў паблізу не бачна...

Цяпер следства высвятляе, хто выступіў арганізатарам, а пакуль дакладна вядома адно: дзвюх авечак хлопцы без доўгіх роздумаў закінулі ў багажнік «Жыгулёў». Прыехаўшы ў Мядзел, накіраваліся да Юрыя Купрэвіча, які пражывае ў прыватным доме. Там авечак зарэзалі, разабралі. Мяса — у халадзільнік, а шкуры закапалі ў зямлю ля хлява. Потым зайшлі ў хату, селі за стол «замачваць» удала праверанутую аперацыю «Шашлыкі». Раптам Аляксандр Паршута спахапіўся, што ў паездцы згубіў партманет. А там — пашпарт, правы, тэхталон на службовую машыну. Хлопцы зноў ускочылі ў «Жыгулі». Дакументы Паршуты, якія той «пасеяў» на месцы пагрузкі авечак у легкавік, адшукалі даволі хутка. Вярнуліся ў райцэнтр, паездзілі туды-сюды. Ля рэстарана трапілі ў поле зроку супрацоўнікаў міліцыі, нешта ім падалося падазроным і праваахоўнікі паехалі за «Жыгулямі». Убачыўшы, што следам едуць міліцыянеры, Трэнькоў націснуў на газ...

Гонка працягвалася нядоўга. На адной з вуліц нецвярозы вадзіцель не справіўся з кіраваннем і легкавік на вялікай хуткасці перакуліўся. Уцекачы адкараскаліся, у прынцыпе, лёгкім спалохам, а вось «Жыгулям» дасталося. Да ўсяго іншага Трэнькоў даўся навуцёкі, на яго аб'яўлены вышук. Астатнія ж удзельнікі крадзяжу даюць паказанні, узбуджана крымінальная справа.

Чаму хлопцы пайшлі на злачынства, за якое можна «Адхапіць» да шасці гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці?

— З трэцім удзельнікам крадзяжу, — гаворыць в. а. следчага Мядзельскага РАУС Валянцін Радзевіч, — яшчэ не сустракаўся. А гэтыя двое шкадуюць, што натварылі такое. Размаўляеш, быццам і някепскія хлопцы. Бяда, што многія зараз п'юць без меры, а потым слаба кантралююць свае дзеянні, расплацяцца за якія бывае вельмі няпроста.

Хутчэй за ўсё, так яно і атрымалася. Таму гарэлка гарэлкай, адно і сваю галаву на плячах, як кажуць людзі, трэба заўсёды мець.

*Наш кар.*

### «Нахімічыў»

***У Валожыне такое здарылася ўпершыню. Адзін з «выхаванцаў» спецкамендатуры, так званы «хімік», сярод белага дня 12 ліпеня а 19-й гадзіне ў двары сярэдняй школы N1 спрабаваў згвалтаваць шасцігадовае дзяўчо. Малую прывезлі на лета да бабулі, якая і выпусціла яе пагуляць.***

Да гонару жыхароў шматкватэрнага жылога дома «драпежніка» ў чалавечым абліччы адразу ж затрымалі. Умомант падаспела і міліцыя. Дарэчы, па чутках у гвалтаўніка гэта ўжо трэцяя спроба...

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

Небяспечна для здароўя

# Перш чым набыць замежны тавар, зірніце на абгортку!

Не так даўно «Цэнтральная газета» апублікавала артыкул Івана Чыбісава «Гуманітарная дыверсія». У ім распавядалася пра наяўнасць эмульгатарных (шкодных для здароўя) рэчываў у замежных прадуктах харчавання. Вось невялічкая цытата:

«Падкие на импортные продукты соотечественники врядли догадываются, что заграничная еда в большинстве случаев насыщена смертоносными веществами — эмульгаторами. Эта начинка бывает 30 видов... Подобные продукты питания запрещены в странах-производителях».

І яшчэ адна вытрымка:

«Наши продукты всегда ценились в мире, как лучшие по качеству и экологической чистоте... В капиталистическом мире тогда шел противоположный процесс: массовая замена натуральных продуктов на искусственные... Так вместо натурального хлеба в Германии «шел» его искусственный заменитель «эрзац». Погоня за прибылью заставляла идти на такую заразу».

Вытворчасць эмульгатарных прадуктаў спажывання атрымала развіццё на Багамах, Кіпры, Філіпінах, Мальце, Пуэрта-Рыка, Сінегале, Ізраілі, Марока, Аўстраліі, Кеніі, а таксама ў Галандыі, Германіі, Швейцарыі, Турцыі, ЮАР. Калі на абгортцы тавару ёсць сярод назваў шматлікіх інгрыдыентаў літара «Е» з пэўным наборам лічбаў , гаворыцца ў артыкуле,— устрымайцеся ад пакупкі!

Перш чым набыць пачак цыгарэт замежнай вытворчасці, звярніце, калі ласка, ўвагу на надпіс «Use outsid» — толькі для знешняга экспарту. Ён папярэджвае — гэты тавар рэалізуецца толькі ў краінах трэцяга свету.

Я не вытрымала, каб не патэлефанаваць загадчыку маладзечанскага цэнтра стандартызацыі Мікалаю Мартынаву. Ён выслухаў пра мой непакой і сказаў, што на аснове лабараторных аналізаў раіць усё ж устрымацца ад набыцця ласункаў у камерцыйных крамах горада. Нашаму спажыўцу часта прапануецца няякасны тавар і нават, калі вы папросіце гандляра паказаць сертыфікат, то няма аніякай гарантыі, што гэты дакумент з'яўляецца сапраўдным. «Недзе 80% экспарціруемай у Беларусь прадукцыі значна ўступае якасці айчынных прамыславікоў, а сертыфікаты лёгка падрабляюцца на кампутарнай тэхніцы», — выказаўся Мікалай Яўгенавіч і працягнуў гаворку наконт таго, што, напрыклад, якаснай кавы на паліцах Маладзечна днём з агнём не знойдзеш. Нават у рэкламуемым «Якабсе» ужываецца кафеін, нібыта ў звычайным кававым напоі.

З газіраваных напояў мой суразмоўца прапанаваў ужываць «ХУП», які аказаўся самым якасным у ходзе шматлікіх кантрольных праверак. З алкагольных перавагу трэба аддаць іспанскім, балгарскім ці малдаўскім вінам, Каньякоў і лікёраў, адпавядаючых усім патрабаванням дзяржстандартаў у харчовай галіне, і зусім няма. Толькі выдатныя падробкі. Так што, шаноўныя, кіруючыся парадамі М. Я. Мартынава, нам застаецца на святочны стол ставіць праверaную амаль кожным «жытнёвачку». Толькі з ёй мы ўстаём на другі дзень застолля без галаўнога болю.

Што тычыцца жуйкі, то вызначэнне яе якасці знаходзіцца ў кампетэнцыі Міністэрства аховы здароўя, таму нічога канкрэтнага мой суразмоўца сказаць на гэты конт не змог. А вось шакалад і цукеркі ён параіў лепш не купляць, таму што ў параўнанні з айчыннай прадукцыяй яны намнога горшыя. Хіба што больш смачнейшыя і пахнючыя за кошт штучных дадаткаў. Гэта парада таксама распаўсюджваецца і на розныя віды кансерваў і галандскі маргарын, які выдаецца за сметанковае масла, а на самой справе складаецца працэнтаў на 40 з алею. Ну дык ці варта аддаваць грошы за такую ласку?

Наконт кода з літарай «Е» М. Я. Мартынаў сказаў, што нават у Дзяржкамітэце стандартызацыі не могуць яго расшыфраваць. Пакуль што.

Ну, а перашкаджаць камерсантам гандляваць няякасным таварам гарадская санітарная служба можа толькі прымяняючы да іх штрафныя санкцыі. На падставе кантрольных праверак, безумоўна. Арыштаваць няякасную прадукцыю яна не мае права, таму што на працягу 3 гадоў Парламент Беларусі так і не здолеў прыняць шэраг Законаў аб абароне правоў спажыўца. Таму і дзейнасць такой патрэбнай людзям службы застаецца абмежаванай. Шкада. На маю асабістую думку, было б нядрэнна, па выніках кантрольных праверак санітарна-эпідэміялагічнай службы горада змяшчаць пералік вырабаў, неадпавядаючых харчовым стандартам Беларусі на старонках мясцовай газеты.

*Ірына ШАСТАКОВІЧ.*

Здраўніцы Нарачанскага краю

# Летнік «Зубраня»: тут кепска адпачываць толькі мамчыным сынкам

Пачатак майго знаёмства з беларускім «Артэкам», як некалі ў прэсе часта называлі «Зубраня», нават некалькі азадачыў. Ля сталовай, дзе збіраліся на вячэру атрады, убачыў такую сцэнку. Паўнаваты падлетак, гадоў на дванаццаць, напраміл бог прасіў бацькоў забраць яго дадому. Заезд толькі-толькі пачаўся, і тыя ўгаворвалі сына застацца ў лагеры, адпачыць. Але той — ні ў якую. «Атакаваў» папераменна то бацьку, то маці, па яго шчаках цяклі буйныя слёзы.

— Што табе ў лагеры не падабаецца? — спагадліва пыталіся збянтэжаныя бацькі.

— Кепска тут, хачу дадому, — настойліва паўтараў адно і тое ж падлетак.

Побач са мной прыпыніўся жвавы хлопчык. Як потым даведаўся, завуць яго Андрэй, прыехаў з Гомельшчыны.

— Можа, ты ведаеш, чаму гэта яму так да бацькоў хочацца, — пацікавіўся ў Андрэя.

— А ў нас з «Зорнага» адзін таксама ўчора дадому паехаў. Наманіў бацькам, што мы б'ёмся, хаця яго і пальцам за ўвесь час ніхто не крануў.

— Дык навошта ён выдумляў?

— У лагеры — дысцыпліна. А ў Мінску яму бацькі на жуйкі ды бананы па 20 тысяч штодзень даюць. Тут жа трэба раніцай своечасова ўстаць, памыцца, ложак заслаць, у пакоі прыбраць...

— А як табе, ды іншым хлопчыкам, дзяўчынкам адпачываецца?

— Добра, лепш не трэба!

— Ці часта здараецца такое, — задаў пытанне пры сустрэчы начальніку лагера Яўгену Хамякову, — калі бацькі датэрмінова забіраюць дзяцей з «Зубраняці»?

— Такіх выпадкаў няшмат, але яны бываюць. І прычына гэтага больш глыбінная, чым можа пакзацца на першы погляд. Праграма знаходжання дзяцей у лагеры разлічана такім чынам, каб літаральна кожны мог максімальна праявіць свае здольнасці: хто — у ведах, хто — у спорце, хто — у народнай творчасці... А калі падлетак — лайдак, дрэнна вучыцца ў школе, не імкнецца рабіць іншым даброты, у яго адсутнічае пачуццё таварыскасці, то ў розных гульнях, спаборніцтвах, конкурсах, віктарынах, паходах ён заканамерна аказваецца «у ценю», пачынае адчуваць сябе нікому не патрэбным...

Распарадак дня ў лагеры вельмі насычаны. Дзецям ёсць чым заняцца. Працуюць адзінаццаць самых розных гурткоў, бібліятэка, гульнятэка, праводзяцца дыскатэкі. У швейнай майстэрні адпачываючыя з дапамогай спецыялістаў рыхтуюць касцюмы да свят, карнавалаў. Не пустуюць і басейн, дзве спартыўныя залы і кіназала. А выдаўся вольны час, таксама ёсць што рабіць. Можна навесці ўзорны парадак ў сваёй тумбачцы ці пакоі, пакатацца на лодцы ці катамаране, схадзіць у ягады ці грыбы, а калі трэба — то і шкарпэткі памыць...

Кормяць дзяцей у «Зубраняці» добра, пяць разоў на дзень, недзе на 17—20 тысяч рублёў.

— Харчаванне ў нас, — выказвае меркаванне Яўген Хамякоў, — лепшае, чым у «Артэку». Нядаўна пабываў там на свяце ў сувязі з 70-годдзем міжнароднага дзіцячага цэнтра. Пуцёўка туды зараз каштуе ля чатырохсот доляраў ЗША. Такая сума простым людзям не па кішэні. Больш таго, у самім «Артэку» ужо з'явіліся «элітныя» атрады.

За пуцёўку ж у «Зубраня» на 21 дзень бяруць толькі 36 тысяч рублёў, пры яе сабекошце 1,8 мільёна рублёў. Астатняе кампенсуецца, згодна з адпаведнай пастановай Саўміна, з бюджэту. Праўда, трапіць у лагер цяжкавата, бо на ўсю рэспубліку на кожны з адзінаццаці гадавых заездаў усяго 640 месц. Больш за ўсё тут цяпер дзяцей з Гомельскай і Магілёўскай абласцей. Адпачываюць у «Зубраняці» таксама невялікія групы хлопчыкаў і дзяўчынак з Польшчы, Германіі, Літвы, Украіны. Апошнія гады з тры праходзяць аздараўленчы курс і дзеці пасля аперацый на шчытападобнай залозе. Вынікі дома нават лепшыя, чым мелі тады, калі ездзілі на аздараўленне за мяжу.

Не сакрэт, што ў фінансавым плане і «Зубраня» перажывае цяпер далёка не лепшыя часы. Урадавая праграма далейшага развіцця піянерлагера практычна не ажыццяўляецца. Таму некаторыя будынкі паціху прыходзяць у заняпад, не ўзводзіцца шэраг неабходных для нармальнай дзейнасці лагера аб'ектаў. У будучым годзе, калі ўсё атрымаецца, у эксплуатацыю здадуць толькі адзін трохпавярховы корпус на 160 месц.

Бясспрэчна адно: не зважаючы на ўсе эканамічныя цяжкасці, летнік заслугоўвае большай ўвагі і падтрымкі. Ён такі — адзіны на ўсю рэспубліку. І лепшага месца для адпачынку і аздараўлення дзяцей не знайсці.

*Алесь ДЗЯГІЛЬСКІ.*

Культура



## Зорка жыве побач

У перакладзе з грэчаскай мовы Стэла азначае зорка. Шчаслівая зорка навучэнкі вакальнага аддзялення Маладзечанскага музычнага вучылішча Стэлы Карагланавай узышла на эстрадным рэспубліканскім небасхіле ў час III Нацыянальнага фестывалю песні і паэзіі «Мінск-95». На конкурсе маладых выканаўцаў Стэла заняла першае месца, прайшоўшы два адборачныя туры, пасля якіх з 200 канкурсантаў засталося толькі 12.

Бясспрэчны талент, выдатныя вакальныя дадзеныя, артыстызм — усё гэта прывяло Стэлу да перамогі. А яшчэ тое, што песні, якія яна выконвае, напісаны спецыяльна для яе кампазітарам, таксама маладачанкай, Аленай Атрашкевіч і вядомай беларускай паэткай Валянцінай Аколавай. Некаторыя з гэтых песень ужо запісаны і ўключаны ў песенны фонд Беларускага радыё. Выйшла на рэспубліканскі экран перадача «Тэлебом» з удзелам спявачкі. Сярод бліжэйшых планаў Стэлы — гастрольная паездка па Украіне з тэатрам песні Ядвігі Паплаўскай і Аляксандра Ціхановіча, канцэрт для жыхароў роднага горада.

Безумоўна, Стэла — гэта з'ява ў музычным жыцці нашага горада, магчыма, усёй рэспублікі. Яна вельмі шмат працуе над сабой, упарта шукае сваю песню, якая, па яе словах, «была б вышэйшай за нашу паўсядзённасць, напаўняла душу светлымі пачуццямі». І не спыняе яе ў гэтых творчых пошуках нават тое, што пакуль акрамя музычнага вучылішча ў Маладзечне не знайшлося зацікаўленых структур, якія б змаглі падтрымаць узыходзячую зорку матэрыяльна, прадаставілі б ёй магчымасць зрабіць добрыя фанаграмы, аранжыроўкі, прыняць удзел у фестывалях, гастрольных паездках.

*Анжаліка КРУПЯНЬКОВА.*

*На здымку: Стэла.*

*Фота Міхаіла Асаевіча.*

## «Магутны Божа» благаславіў маладзечанцаў

III Міжнародны фестываль духоўнай музыкі «Магутны Божа», на які з'ехаліся больш тысячы прадстаўнікоў з Беларусі, Расіі, Украіны, Літвы, Польшчы, Балгарыі, Галандыі, ЗША і нават Камеруна завяршыўся ў Магілёве. У яго рамках праходзіў конкурс на лепшую канцэртную праграму. Мінскую вобласць сярод ансамбляў акадэмічнага накірунку прадстаўляў на ім вакальны ансамбль «Апіта» (у пер. з італьянскай — «душа») Маладзечанскага музычнага вучылішча імя Агінскага. Высокапрафесійны калектыў, якім кіруе Андрэй Спічак, заняў на конкурсе другое месца (першае міжнароднае аўтарытэтнае журы вырашыла не прысуджаць нікому).

Выступаў ансамбль і на адкрытых пляцоўках горада. Магіляўчане, госці фестывалю добра прымалі беларускія народныя песні ў апрацоўцы маладзечанскай кампазіторкі Алены Атрашкевіч, а таксама старадаўнія беларускія канты са зборніка «Беларускія куранты».

*Анжаліка КРУПЯНЬКОВА.*

# ПРЫВАТНЫЯ БЯСПЛАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

◆ПРАДАМ швейную машыну «Подольск М-2», нажны прывод, у добрым стане. Тэл. у Маладзечне 5-22-26.

◆Хутка і якасна выраблю пячаткі і штампы. Атрымаю дазвол на іх выраб. Тэл. у Маладзечне 7-93-83.

◆ПРАДАМ або здам у арэнду прычэп да легкавога аўтамабіля «Зубраня». Тэл. у Маладзечне 5-49-55.

◆МЯНЯЮ трохпакаёвую кватэру на двух- і аднапакаёвую або на дзве аднапакаёвыя. Тэл. у Маладзечне 5-42-36.

◆ПРАДАМ дом у Вілейцы (жылая плошча 30 кв. м, хлеў, пограб, 12 сотак, 500 м ад Вілейскага вадасховішча). Тэл. у Вілейцы 5-65-16.

◆ПРАДАМ металічны кантэйнер для дачнага ўчастка і новы пісьмовы стол. Тэл. у Маладзечне 7-84-15.

◆ПРАДАМ новы стол пад мыйку і м/ц «Романтика-105» б/у на запчасткі. Тэл. у Маладзечне 7-93-83.

◆ПРАДАМ халадзільнік «Кристалл-408-1» б/у. Тэл. у Вілейцы 5-62-32.

◆ПРАДАМ лічыльнікі гарачай і халоднай вады СВ-15 па цане магазіна. Тэл. у Маладзечне 5-49-55.

◆ПРАДАМ на запчасткі а/м «Опель-Рэкорд» 1983 г.в., «Паланез-Каро» 1993 г.в. Тэл. у Маладзечне 6-45-73.

◆ПРАДАМ матацыкл «Ява-350/634» з каляскай. Прабег 44 тыс. Тэл. у Маладзечне 7-08-32 удзень.

◆ПРАДАМ бензапілу «Тайга» і электрапілу «Парма» новыя тэрмінова. Тэл. у Мінску 27-78-07.

◆ПРАДАМ тканіну плашчовую. Вытворчасць Фінляндыя. Шырыня 1500 см. Нядорага за наяўны разлік. Тэл. у Маладзечне 6-45-73.

◆ПРАДАМ канапу, 2 стулы, кухонны стол, халадзільнікі «Снайге», «Мінск», швейную нажную машыну «Зінгер». Усё б/у у добрым стане. Цэны нізкія. Тэл. у Маладзечне 5-19-55.

◆ПРАДАМ чыгунную ванну б/у, 150 см. Тэл. у Маладзечне 5-40-18.

◆ПРАДАМ чырвоную цэглу абліцовачную. Тэл. у Вілейцы 5-79-15.

◆На працягу тыдня, аднаго дня выраблю пячаткі і штампы, датары, нумаратары на аўстрыйскіх аўтаматах «COLOP». Тэл. у Маладзечне 5-49-55.

◆МЯНЯЮ двухпакаёвую кватэру ў Валожыне (36,2 кв. м карыснай плошчы, 4-ы паверх) на двухпакаёвую або трохпакаёвую з даплатай у Маладзечне. Тэл. у Маладзечне 78-3-73.

◆Згубленае пасведчанне (серыя Г N 063046) пацярпеўшай ад аварыі на ЧАЭС на імя Логвін Т. І. лічыць несапраўдным.

◆МЯНЯЮ ПАКОЙ у трохпакаёвай кватэры па вул. Драздовіча ў Маладзечне на такі ж пакой у іншым мікрараёне або гэты пакой і паўдома з гаспабудовамі, зямлёй 10 сотак, садам у Маладзечанскім р-не, 1,5 км ад чыгуначнай станцыі «Беразінскае» на аднапакаёвую кватэру ў Маладзечне. Тэл. у Маладзечне 4-47-53, 4-46-63, 5-28-26.

◆ПРАДАМ драўляны дом у Маладзечне па вул. Вароўскага. Тэл. у Маладзечне 27-2-42, 6-46-88.

◆ПРАДАМ а/м «Фольксваген-Скірока» 1984 г.в. за $2400. Звяртацца па адрасе: Маладзечна, вул. Прытыцкага, 2-9.

◆Рамантую маладзечанцам тэлевізары на даму. Тэл. у Маладзечне 5-22-83.

◆МЯНЯЕМ трохпакаёвую кватэру ў Маладзечне (2 лоджыі, тэлефон, цэнтр горада) на двух- і аднапакаёвую або двухпакаёвую і дом у раёне Маладзечна. Магчымы варыянты. Тэл. у Маладзечне 5-21-34.

◆ПРАДАМ новы тэлевізар «Гарызонт» шостага пакалення з імпартным кінескопам 51CTV-603E-I за $325. Тэл. у Маладзечне 7-06-56.

◆МЯНЯЮ трохпакаёвую кватэру ў Мядзеле (хлеў, зямля) на Мінск. Тэл. у Мядзеле 54-6-03; у Мінску 40-45-48, 42-19-38.

◆ПРАДАМ два аднаспальныя ложкі ад гарнітура б/у у добрым стане. Тэл. у Маладзечне 6-08-53 пасля 19.00.

◆ШУКАЮ напарніка для паездкі ў ЗША на працу. Тэл. у Маладзечне 5-30-65.

◆ПРАДАМ паўдома ў Вілейцы (участак 12 сотак, гараж, вадаправод, сад). Тэл. у Вілейцы 5-36-52.

◆ПРАДАМ драўляны дом з участкам 25 сотак у в. Бараўцы (8 км ад Вілейкі). Тэл. у Вілейцы 5-68-57 у рабочы час.

◆STOP! ПРАДАМ дом у цэнтры Вілейкі (70 кв. м, сад, гаспабудовы, 7 сотак) за $8500. Тэл. у Вілейцы 6-32-57.

◆ПРАДАМ «Микрофоллин форте» і «Клостибегит». Аддам «Профази», «Лизоцим», «Кломифенцитрат». Тэл. у Вілейцы 5-62-04.

◆ПРАДАМ кузаў да ЗАЗ першай камплектнасці без рухавіка і КПП негнілы з дакументамі ($100), рухавік і КПП першай камплектнасці да ЗАЗ 30 л.с. і інш. запчасткі да рухавіка ($100). Звяртацца па адрасе: Мядзельскі р-н, в. Лотва, Мілто.

◆ПРАДАМ камп'ютарныя гульні тыпу «DENDI». Гарантыя і дастаўка на дом. Тэл. у Маладзечне 7-59-26.

◆ПРАДАМ двухпавярховы недабудаваны катэдж у в. Селівонаўка або ПАМЯНЯЮ на кватэру. Магчымы варыянты. Тэл. у Маладзечне 5-26-05.

◆МЯНЯЮ аднапакаёвую кватэру ў Смаргоні 35,3 кв. м на раўнацэнную ў Мінску, Дзяржынску або Заслаўі. Тэл. у Смаргоні 5-26-01.

◆Англійская, беларуская, балгарская мовы: індывідуальныя заняткі, пераклады любой тэматыкі. Тэл. у Мінску 45-57-28.

◆ПРАДАМ ацяпляльныя батарэі ўжываныя. Тэл. у Маладзечне 29-4-04 пасля 17.00.

## КУПОН для бясплатных прыватных аб'яў

Напішыце аб'яву друкаванымі разборлівымі літарамі і дашліце ў канверце на адрас: 222310, Маладзечна-7, а/с 1607.

**Тэкст аб'явы і тэлефон (адрас) для друку:**

Прозвішча, імя і адрас (звесткі не публікуюцца):

## Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна

**Маладзечна— 01773, Вілейка— 01771, Смаргонь— 01592, Ашмяны— 01593, Валожын— 01772, Мядзел— 01797, Астравец— 01591, Мінск— 0172**




**РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА N14; 28.07.95-3.08.95**
**Заснавальнікі:** рэдактарат, ЗАТ «Інтэрмаркет», фірма «Фаварыт». **Пасведчанне** N1091. **Выдавец:** рэдакцыя «Рэгіянальнай газеты». **Рэдактар:** Аляксандр МАНЦЭВІЧ

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. **Тыраж** 7000 экз. **Цана 500 рублёў.**
**АДРАС ДЛЯ ПІСЬМАЎ: 222310, Маладзечна-7, а/с 1607**
**АДРАС РЭДАКЦЫІ:** 222310, Маладзечна, вул. Хмяльніцкага, 22, фірма «Фаварыт», «РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА».
**ТЭЛЕФОНЫ:** у Маладзечне 52953, тэл./факс у Вілейцы 5-60-73

**РЭКЛАМА.** Базавая стаўка 7500 рублёў за 1 кв. см. Разліковы рахунак N 468704 ФАКБ «ПОИСК» у Маладзечне, код 115, атрымальнік рэдакцыя «РГ»
Аддрукавана з арыгінал-макета ў друкарні «Перамога», 222310, Маладзечна, вул. В. Таўлая, 11
**Заказ N** 885 Падпісана ў друк 28.07.95